# Літаратурная старонка "Нашага слова"

### ТРЫ ЖАДАННІ

Калі бутэльку я знайду
З магутным Джынам у ёй,
У Бюро знаходак не пайду,
Джын будзе служка мой.

За волю выканаць гатоў
Тры пажаданні Джын.
І ад маіх, канешне, слоў
Залежыць змовы чын.

Я ўсё прадумаў, што прасіць,
І словы адабраў,
Якімі буду гаварыць,
Каб Джын іх сутнасць знаў.

Жаданне першае маё,
Каб людзям розум даў,
Каб кожны роднае сваё
Любіў і шанаваў.

Каб дзеткі мовы прыгажосць
Успрымалі з першых слоў.
Каб зналі: у нас багацце ёсць,
Яно з сівых вякоў.

Яшчэ я Джына папрашу,
Як майстра розных дзіў,
Каб ён Чарнобыля бяду
У бутэльку пасадзіў.

...Калі бутэльку я знайду
З магутным Джынам у ёй,
Усё магчымае зраблю,
Каб стаў ён служка мой.

### ПАВУК

Я прачнуўся на світанку,
Выйшаў з хаты і на ганку
Цуд убачыў!
Невысока, пад страхой,
У мяне над галавой,
Тчэ ў кутку кілім павук
Ды без кроснаў,
І без рук!
Мне вельмі спадабалася,
І я аловак узяў,
І на белым аркушы
Яго замаляваў.
Паказаў сястрычцы,
Яна галік узяла,
І павука з кілімам
Цяпер у кутку няма...

### ВЕРАСЕНЬ

Яшчэ не восень – бабінае лета
Палашчыць нас сваім цяплом,
Але ўжо восені прыкмета
Гарыць рабінавым агнём.

Паўсюды срэбныя кілімы
Вісяць на травах, хмызняках,
І жураўліны крык шчымлівы,
І яблык позні ў хаце пах.

Як не круці, калі апенькі
У рост пайшлі, і льюць дажджы,
Калі кажух дзядок старэнькі
Надзеў – пра лета не кажы.

* * *

Каля ганка ў гушчыні
Стромкага ядлоўца
Прыжыліся вераб'і
Ля майго ваконца.

І цяпер каля вакна
Не бывае сумна:
Ад світанку да цямна
Весела і тлумна.

Навасёлам рады ўсе,
Толькі кот Мікіта
Ім спакою не дае,
Фыркае сярдзіта.

Выпускае кіпцюры,
Каб схапіць якога.
Падлічыў, што на двары
Іх занадта многа.

### БАЛІЦЬ, КРЫЧЫЦЬ МАЯ ДУША...

Баліць, крычыць мая душа.
Ды што з таго? Яе не чуюць.
А мне баліць за мой народ,
Што не зберог свой радавод.
Баліць за спадчыну, за мову,
За гэту гнюсную дамову
Свайго юрлівага гандляра.
Баліць, крычыць мая душа.
Ды што з таго? Яе не чуюць...
І я адно прашу ў Бога,
Каб пакараў за гэта строга
Тых, хто Дзяржавай гандляваў.
Таго, хто клянуся, абяцаў
Быць справядлівым і ніколі
Не саступіць з дарогі Волі.
Няўжо, Усявышні, ты не чуеш
Маю малітву, не ўратуеш?
Ну хоць скажы мне, што рабіць,
Каб беларусы змаглі жыць
Так, як жывуць прыстойна людзі.
Скажы: калі такое будзе?
... Баліць, крычыць мая душа.
Ды што з таго? Яе не чуюць.

### Я УСЁ СЦЯРПЛЮ...

Калі кожную клетку і ноччу і днём
Адчуваеш налітую, быццам свінцом,
Калі нельга без болю і крок ступіць,
І немым крыкам душа крычыць,
Ты ўсё яшчэ не гатоў да таго,
Што стаіш на зыходзе жыцця свайго,
І не хочаш верыць, што гэта так,
Што гэта табе папярэджвальны знак.
Ты не можаш ніяк адно зразумець:
За што павінен такое цярпець?

А можа тое, што лічыш няміласцю,
На самой справе знак Боскай міласці?
І гэты боль табе дадзены ім,
Каб ён не прыстаў нашчадкам тваім?

О калі гэта праўда, калі гэта так,
Дзякуй Табе, божа, за гэты знак!
Я ўсё сцярплю, каб толькі ім
Здароўя Ты даў, крывінкам маім.

**Фелікс Шкірманкоў.**

# Давайце спяваць па-беларуску

**ДЗЯЎЧЫНЕНЬКА ШУМІЦЬ ГАЙ**
**песня з рэпертуару ансамбля "СВЯТА"**




-Дзяўчыненька, шуміць гай, } *2 разы*
Каго верна любіш, не забывай. } *2 разы*

-Няхай шуміць, хай гудзе: } *2 разы*
Ды хто верна любіць–той сам прыйдзе.} *2 р*

-Дзяўчыненька, адчыні, } *2 разы*
Хаця ж маё сэрца развясялі. } *2 разы*

-Ой, не буду адчыняць, } *2 разы*
Бо захочаш ночаньку начаваць. } *2 разы*

-Ой, не буду, не буду, } *2 разы*
Толькі ўзыйдзе месячык, я пайду. } *2 разы*

Мы сядзелі да зары, } *2 разы*
Пакуль стала відненька на двары. } *2 разы*

Як узышоў месяц і зара, } *2 разы*
Аставайся, мілая, здарава! } *2 разы*

# "Вольныя танцы: новая альтэрнатыва. Частка II"

29 верасня ў Менскім Парк-клубе (парк Чалюскінцаў) адбудзецца канцэрт-прэзентацыя альбому "Вольныя танцы: новая альтэрнатыва. Частка II". У рок-акцыі бяруць удзел гурты "ZET", "EXIST", "Безь Білета", "HAPPY FACE", "Новае Неба", "UR'IA", "Троіца", "LONGPLAY".

Спецыяльныя госці – гурт "POSTSCRIPTUM" (уладальнік Гран-пры "Басовішча-2000") і гурт "Акруга Вольнага Мастацтва" (Магілёў). Пачатак а 17 гадзіне.

Кошт квітка 1500 рублёў. за столікам – 2500 рулёў. Студэнтам і пакупнікам альбомаў "Вольныя танцы" – зніжкі. Кожнаму, хто прыйшоў на канцэрт – зніжкі на начную дыскатэку.

Дадатковая інфармацыя па тэлефоне 284-13-99.

Будзь разам з намі!

# У "Гасцёўні Уладзіміра Галубка"



У "Гасцёўні Уладзіміра Галубка" на выставе, прысвечанай 90-годдзю вядомага тэатральнага мастака, заслужанага дзеяча мастацтваў Івана Міхайлавіча Ушакова, адбылася сустрэча ўдавы мастака Зоі Данілаўны з акцёрамі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Трыццаць гадоў жыцця аддаў купалаўскаму тэатру І. М. Ушакоў, стварыўшы дэкарацыі і касцюмы да сарака спектакляў. Нядаўна творчую спадчыну, усе архівы яго ўдава бескарысна перадала музею гісторыі тэатра і музыкі.

**На здымку:** Зоя Данілаўна Ушакова (трэцяя справа) на сустрэчы ў "Гасцёўні Уладзіміра Галубка".

**Фота Яўгена Казюлі, БелТА.**

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 11. 09. 2000 г.
Наклад 2700 асобнікаў. Замова № 2353
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 171 руб., 3 мес.- 513 руб.
*Кошт у розніцу:* 40 руб.